


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (1097) ГОД XXII БЕЛАСТОК 6 САКАВІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.

## Шляхам гадоў

Нядаўна ў газеце „Правда“ і іншых газетах быў апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 2 лютага гэтага года. У дакуменце гаварылася: „За вялікія заслугі ў развіцці савецкага музыкальнага мастацтва прысвоіць народнаму артысту СССР **Шырме Рыгору Раманавічу** званне **Героя Сацыялістычнай Працы** з уручэннем яму ордэна Леніна і залатой медалі **„Серп і Молат“**. Віншуючы нестара беларускай культуры, хочам прыгадаць вялікі ўклад яго ў збіранне і апрацоўку

## ПАТРЫЯРХ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

беларускіх народных песень Беласточчыны.

Беларуская народная песня ўскалыхала і ўзгадавала Р. Шырму. Нарадзіўся ён **20 студзеня 1892 года** ў вёсцы Шакуны на Пружаншчыне, што знаходзіцца непадалёк усходніх ускраін Белавежскай пушчы. Сям'я жыла вельмі бедна, і хлопцу з самага маленства і да трынаццаці год давялося наймацца пастушком у заможных сялян. Спазнанне да глыбінь цяжкага жыцця беларускага сялянства і яго тугі да свабоды і шчасця, што знайшло выраз у народных песнях, акрэсліла шляхі далейшых жыццёвых пошукаў хлапца. Пасля заканчэння гарадскога вучылішча ў Пружанах, а затым педагагічных курсаў ён у 1912 г. пачынае працаваць настаўнікам на Віленшчыне, і ўжо тады паяўляюцца ў яго нататках першыя запісы беларускіх народных песень. Але набытыя веды не здавальняюць юнага педагога, і ён пасля двух год працы паступае ў Сядлецкі настаўніцкі інстытут. Калі набліжаўся фронт першай сусветнай вайны, інстытут эвакуаваўся спачатку ў Маскву, потым у Яраслаўль. У пачатку 1917 г. Р. Шырму прызываюць у армію і ён служыць у часцях, што ахоўвалі чыгунку ў Туркестане. Адразу пасля перамогі Савецкай улады настаўнікі былі дэмабілізаваны. Р. Шырма з пачаткам 1918 года і да паловы 1922 г. працуе ў школе ў Варонежскай губерні, а потым вяртаецца на радзіму, у Шакуны. Хоць у той час у Польшчы быў вялікі недахоп настаўнікаў, усё ж кваліфікаваных педагогаў, што вярнуліся з Савецкай Расіі, тагачасныя ўлады не дапускалі і блізка да школы. Р. Шырме прыйшлося пайсці з сякерай ды пілой на працу ў лесе. Нягледзячы на гэта ён не зракаецца асветна-культурнай дзейнасці. У 1924 г. засноўвае ў Пружанах беларускі народны хор, прысвячае яму ўсе свае сілы і талент. У хуткім часе гэты калектыў здабывае аграмадную папулярнасць не толькі сярод мясцовага насельніцтва, але і далёка па-за Пружаншчынай. Гэта і было падставай, што ў 1926 г. таленавітага хормайстра запрасілі на пасаду выкладчыка і дырыжора хору ў Беларускай гімназіі ў Вільні. На жаль, доўгачаканая, выпеставаная ў марах педагагічная праца не трывала доўга — праз два гады гімназія была закрыта. Р. Шырма цяпер усяцэла аддаецца працы з хорам Беларускага саюза студэнтаў у Вільні і грамадскай дзейнасці ў якасці сакратара Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, а таксама выдаўцы часопісаў *„Летапіс ТБШ“* і *„Беларускі летапіс“* — органаў гэтай арганізацыі. Ён разгортвае прапагандысцкую, асветную і выдавецкую дзейнасць у цесным супрацоўніцтве з кіруючымі органамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, між іншым, з'яўляецца



арганізатарам выдання легальнай газеты КПЗБ *„Наша воля“*, рэдактарам зборнікаў заходнебеларускіх пісьменнікаў і іншых выданняў.

У гэты ж час Р. Шырма адводзіць многа ўвагі збіранню фальклору. Наведваючы па справах ТБШ вёскі і мястэчкі Заходняй Беларусі, ён адначасова ажыццяўляў мноства спраў: выступаў з дакладамі, заснаўваў гурткі ТБШ, дзе іх не было, праводзіў сходы ў тых, дзе яны існавалі, арганізаваў пры гуртках вакальныя калектывы і народныя хоры, збіраў сродкі на патрэбы беларускай асветы — словам, ён быў сапраўдным будзіцелем, арганізатарам і натхніцелем культурна-асветнага жыцця ў беларускім асяроддзі. Дарэчы будзе прыгадаць, што якраз тады пачаў сваю дзейнасць і беларускі хор у Гарадку, пра які Р. Шырма ўпамінае ў артыкуле *„Разам з песняй“*, што быў змешчаны ў *„Летапісе ТБШ“* № 2 за 1933 год. І ў часе гэтых вандровак выпытваў у людзей, слухаў і запісваў народныя песні, казкі, прымаўкі, жарты. А вандраваў Р. Шырма па самых адлеглых і глухіх мясцовасцях, у тым ліку і па Беласточчыне.

І так, у 1928 г. наведаў ён вёску Пясчанікі і Страшава каля Гарадка, у 1929 г. вёскі: Лабно каля Аўгустова, Луплянку каля Ялоўкі, Клепачы і Тапілец каля Суража, у 1939 г. — Белавежу, у 1940 г. — Дзяніскі на Бельшчыне, часта

(Працяг на стар. 4)

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

Найперш прарэзліва прагучэў трывожны сігнал. Мы са старухай якраз у той час знаходзіліся ў хляве. Мая Палашка даіла кароў, а я даваў ім сена.

— Глянь, Максіме, што дзеецца на свеце, — сказала яна. — Трубяць так, што яшчэ каровы спалохаюцца і малако прападзе.

Выглянуў я на панадворак, пакруціў галавой на ўсе бакі свету, але нічога не ўбачыў, толькі гэты вой сірэны то заціхаў, то зноў нарастаў.

## МАРСІЯНСКАЯ ВАЙНА

— Гэта, бадай, нашы пажарнікі так сабе балуюцца, трасца ім у бок, — гавару я Палашцы, каб неяк яе супакоіць.

— А не дай бог, можа гэта і ў сапраўднасці недзе ўспыхнуў агонь, — раптам трывожна аглянулася за сябе мая старуха.

Не паспелі мы толкам дайсці да супольных вывадаў, а тут чую, ад вуліцы тупатня. Вызірнуў я з хлява і вачам сваім не веру. Нейкія істоты, быццам не з таго свету, імчацца проста да нас. Вопратка на іх нейкая дзіўная, як у касманаўтаў, на галавах процігазавыя маскі, у руках дзівосныя прылады.

Я чалавек міралюбівы, сварыцца, а тым болей біцца, зусім не люблю, дык схаваўся за дзвярыма хлява і крадком назіраю, што з гэтага ўсяго выйдзе. А яны, гэтыя марсіяне, падскочылі да маёй жонкі, адзін абвёў па ёй нейкім апаратам, штосьці крыкнуў да другога, а той нейкай вадкасцю апырскаў яе вопратку і абодва падскочылі да нашых кароў. Мая бедная Палашка толькі енкнула ад перапалоху, сарвалася з зэдліка, на якім сядзела, вывернула цэбрык з малаком і сама ў гной носам зарылася. А яны, гэтыя замаскаваныя чэрці, да мяне са сваімі апаратамі. Схапіў я вілы і гавару: *„А ну, падыдзі толькі!“*

— Што вы, дзядзька Максіме! — гаворыць адзін з іх. — Мы вас ад атамнага напраменьвання ратуем, дэзінфекцыю ў хляве наводзім, а вы на нас з віламі!

— Вывучаць самаабарону перашкаджаеце, — прагаласіў другі з-пад сваёй маскі. — Мы вас у калегію...

І што вы думаеце, даражэнькія? Сапраўды паклікалі мяне ў гміну. Начальнік у нас адукаваны, дык і кажа:

(Працяг на стар. 5)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

## Багаты людзьмі

Багацце нашага сёлетняга песеннага агляду прымусіла і мяне ўзяцца за пяро і выказаць некалькі ўваг на гэтую тэму.

Багаты быў агляд, па-першае, **людзьмі.** Маю тут на думцы тое, што сярод беларускіх спевакоў Беласточчыны выпрацаваўся ўжо, так сказаць, **трывалы хрыбет,** на які заўсёды можна разлічваць і вядома, што ён не падвядзе, ён падрыхтуецца, ён прыедзе і выступіць. На першым месцы тут можна з поўнай упэўненасцю паставіць несмяротны калектыў з Гарадка з яго душой і маторам Нінай Мушынскай. Так, маторам. Тут перабольшвання няма, спрабуйце хаця б пагаварыць з паняй Нінай, здаўна ўжо бабуляй, і вы пераканаецеся, колькі невычэрпнай энергіі прамянюе з гэтага чалавека, які ўсю сваю гісторыю пасляваеннага жыцця звязаў з гарадоцкім мастацкім калектывам, што, пачаўшы выступаць неўзабаве пасля вайны, пераможна ішоў са сваімі песнямі па гарадах і сёлах, не абмінуўшы нават Палаца культуры і навукі ў Варшаве.

І вось прыехалі ізноў на конкурс семдзесят сёмага года. І заспявалі... І ўбачылі мы, слухачы, як на далоні, люстраныя воды, зелянеючыя нівы, расцвітаючыя сады і „на сонцы Нёман, быццам залаты...“, пачулі крык жураўлёў. Колькі хараства і паэзіі ў іх спеве! Але вось на сцэне ўздым. Гарадок спявае пра краіну, якая ўздымалася з руін, пра партызанскую славу. Спявае гучна, рашуча, але як жа меладыйна. І бачыш ва ўсім гэтым „тэхніку“, рутыну, сапраўдны артызм, добрую руку кіраўніка Сцяпана Копы.

Хтосьці мог бы сказаць, што за столькі год можна было б ужо і навучыцца. Той „хтосьці“ забыўся, што за такі час развучыцца ўжо таксама маглі. „Хай наша слава разам з нашай песняй... праляціць!“, — спявае Гарадок, і можна смела сказаць, што яго слава не ўмірае.

Радасна і ад таго, што не адзін Гарадок складае хрыбет беларускіх спева-

(Працяг на стар. 4)




*Дуэт з Гарадка: Ніна Цыванюк і Ніна Мушынская ў катэгорыі фальклорнай песні занялі першае месца.*

 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# БЕЛАРУСКАЛІЙ

Гісторыя вытворчага аб'яднання „Беларускалій" і горада Салігорска пачалася ў 1958 годзе. Тады сюды прыбылі першыя атрады будаўнікоў. Пачалося будаўніцтва першага калійнага камбіната, а разам з ім і новага беларускага горада — Салігорска. У 1969 годзе тут дзейнічалі тры калійныя камбінаты.

Кожны камбінат спачатку быў самастойным прадпрыемствам. І гэта стварала пэўныя цяжкасці. У 1970 годзе ўсе тры прадпрыемствы былі аб'яднаны ў адзін Беларускі калійны камбінат — „Беларускалій". Гэта дазволіла цэнтралізаваць збыт гатовай прадукцыі, палепшыць забеспячэнне прадпрыемстваў, зменшыць кіраўнічы апарат.

У даны момант вытворчае аб'яднанне „Беларускалій" штогод выпускае каля 8 мільёнаў тон калійных угнаенняў, што складае амаль палову агульнасаюзнай вытворчасці.

З пускам будуючагася чацвертага калійнага камбіната, які таксама ўвойдзе ў склад аб'яднання, магутнасць прадпрыемства ўзрасце да 10,7 млн. тон у год.

Аб'яднанне паспяхова справілася з заданнем дзевятай пяцігодкі (1971-1975 г.г.), здабыўшы амаль 35 млн. тон мінеральных угнаенняў і перавысіўшы аб'ём вытворчасці восьмай пяцігодкі ў 2,1 раза.

Савецкі ўрад высока ацаніў працоўныя поспехі калектыву камбіната. Аб'яднанню прысвоена імя 50-годдзя СССР, у лютым 1976 года яно ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Асаблівую ўвагу ў вытворчым аб'яднанні прысвячаюць быту яго працаўнікоў. Пытаннямі паляпшэння ўмоў працы і быту займаюцца як адміністрацыя, так і партыйная, прафсаюзная і камсамольская арганізацыі.

Усе паступаючыя на работу ў аб'яднанне праходзяць абавязковы медыцынскі агляд у спецыялізаванай паліклініцы, дзе даецца заключэнне лекараў аб прафесіянальнай прыдатнасці працаўнікоў па стане здароўя. Акрамя гэтага, праводзяцца штогадовыя медыцынскія абследаванні рабочых з мэтай выяўлення захворванняў у пачатковай стадыі і паспяховага іх лячэння. У сучасны момант у горадзе заканчваецца будаўніцтва бальнічнага комплексу, які ўключае ў сябе шматпрофільную бальніцу на 510 ложкаў. Нядаўна ўведзена ў строй уваходзячая ў гэты комплекс паліклініка на 1200 наведванняў у дзень.

Для прафілактычнага лячэння работнікаў аб'яднання ёсць уласны санаторый-прафілакторый. Ён знаходзіцца ў сасновым лесе на беразе вадасховішча і аснашчаны медыцынскім абсталяваннем. Працуючыя ў аб'яднанні адпачываюць у ім як у час водпускаў, так і ў вольны ад працы час. Пуцёўкі ў прафілакторый выдаюцца цэхавымі камітэтамі прафсаюза па заяве работніка і спраўцы цэхавага лекара за 15-працэнтную плату коштаў пуцёўкі. Для абслугоўвання шахцёраў медыцынскія пункты працуюць непасрэдна ў шахтах.

Для працаўнікоў аб'яднання з хворым страўнікам уведзена лячэбнае дыэтычнае харчаванне за кошт прадпрыемства.

Акрамя свайго прафілакторыя многія работнікі аб'яднання выязджаюць адпачываць і лячыцца ў санаторыі і дамы адпачынку краіны.

Побач з калійным аб'яднаннем узнік і новы беларускі горад шахцёраў — Салігорск. Цяпер у ім пражывае звыш 60 тысяч чалавек. Новы горад расце і расшыраецца. Будаўнікі штогод даюць у эксплуатацыю да 40 тысяч квадратных метраў жылля.

Для дзяцей у горадзе пабудавана 13 дзіцячых камбінатаў, прадстаўляючых сабой комплексы ясляў і садоў. Значную частку выдаткаў на ўтрыманне дзяцей у садах і яслях узяло на сябе прадпрыемства.

У аб'яднанні „Беларускалій" працуе шмат моладзі. Усе маладыя рабочыя забяспечаны жыллём у добраўпарадкаваных інтэрнатах, дзе створаны ўсе неабходныя ўмовы для ўтульнага жыцця культурнага адпачынку. Шырокі размах сярод моладзі атрымаў спорт, турызм і мастацкая самадзейнасць. Сярод спартсменаў ужо стала традыцыяй штогод праводзіць зімовыя і летнія спартакіяды. Аматары турызму аб'яднаны ў турыстычны клуб „Маладосць". Багатае і разнастайнае жыццё аматараў мастацкай самадзейнасці. У іх распараджэнні прасторны Палац культуры. Асабліва вялікіх поспехаў дасягнуў эстрадны аркестр Палаца культуры, якому ў гэтым годзе прысвоена званне „Народны". У Палацы культуры часта выступаюць эстрадныя калектывы Мінска, Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў Савецкага Саюза.

Так жыве і працуе калектыў салігорскіх хімікаў. Гарнякі Салігорска самааддана працуюць над выкананнем заданняў першага года дзесятай пяцігодкі.

**Н. Гаркавы**



*Плошча імя У. І. Леніна ў Салігорску.* *Фота У. Казлова.*

## ХРОНІКА

■ 12 лютага гарадскі клуб БГКТ у Беластоку арганізаваў карнавальную танцавальную вечарыну ў памяшканні таварыства.

■ Фальклорная харавая група „Арэшкі" з Арэшкава 12 лютага дала канцэрт для жыхароў сваёй вёскі.

■ 13 лютага харавы калектыў „Дубочкі" з Дубяжына і эстрадная група з Плёсак выступалі ў Новаберазове і Чыжах.

■ 26 студзеня г.г. клуб БГКТ у Варшаве наладзіў вечар, прысвечаны адзначэнню 85-ай гадавіны з дня нараджэння Рыгора Шырмы. З абшырнай інфармацыяй аб працавітым жыцці і аграмаднай грамадскай, культурнай, мастацкай і навуковай дзейнасці Рыгора Шырмы выступіў В. Швед. Песні ў выкананні Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Р. Шырмы дэманстраваліся з грамплвсцінак.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Стаць відушчым ● Скаржынскія ● Барок ● Сяброўскія радкі Анатоля Іверса ● У доме культуры ў Дуброве ● Як Даніла з Дзям'янам ворагамі сталі ● Мэблевы кантрэданс ● Гмінныя спартакіяды ● Паўлы на новай дарозе ● Весткі з Міхалова, Сямяціч, Нараўкі, Бельска, Зубава, Шудзялава, Дубіч Царкоўных, Белак ● Калі сняцца сабакі ● Песня „To, co zdarza się raz".**

## ШТО НОВАГА?

# У КРАІНЕ ЗАВОБЛАЧНЫХ ГОР

Прадстаўляючыся, мясцовыя жыхары маглі б сказаць так: я прадстаўнік народа басута, які насяляе Лесота, дзе гавораць на мове сісота. Лесота — невялікая і пакуль яшчэ мала вядомая краіна на поўдні Афрыкі, з усіх бакоў акружаная тэрыторыяй ПАР. Цяпер Лесота імкнецца вырвацца з гэтай „расісцкай пасткі", і, завязаўшы адносіны са знешнім светам, пакончыць з эканамічнай залежнасцю ад ПАР.

Лесота, або, як яе часта называюць, „каралеўства завоблачных гор", — незвычайная для Афрыкі краіна. Перш за ўсё, гэта — самае халоднае месца на самым гарачым кантыненце нашай планеты, а басута — адзіны афрыканскі народ, які жыве ва ўмовах устойлівых адмоўных тэмператур. Больш пяці месяцаў не сыходзіць у гэтым годзе снег з Дракон авых гор, дзе размешчана асноўная паша краіны. Жывёла — яе галоўнае багацце. На 1,2 мільёна жыхароў прыпадае больш трох мільёнаў галоў жывёлы, у тым ліку каля 750 тысяч вядомых махеравых коз. Па экспарту іх воўны гэта маленькая дзяржава займае трэцяе месца ў свеце.

Галоўны сродак руху тут конь, паколькі працягласць чыгунак складае ўсяго 6 кіламетраў, а аўтастрад у многіх раёнах няма зусім.

Праблема „Нумар адзін" эканомікі Лесота — зямельны голад. Горы пакінулі земляробу для апрацоўкі ўсяго 13 працэнтаў нацыянальнай тэрыторыі. І хоць на працягу стагоддзяў басута стараліся павялічыць гэту плошчу, палёў у краіне не хапае. Таму маладыя басута не знаходзяць сабе прымянення ў роднай краіне. Штогод 140 тысяч чалавек, або кожны другі мужчына, едуць на часовыя заработкі ў ПАР. Гэта страшная статыстыка, якая растлумачвае механізм залежнасці каралеўства ад свайго расісцкага суседа, ставіць Лесота па ўзроўню працоўнай міграцыі насельніцтва на першае месца ў Афрыцы.

Але ў гэтай маладой дзяржаве ёсць і радасныя рэкорды. Амаль 70 працэнтаў басута ўмеюць чытаць і пісаць, а гэта азначае, што Лесота лідзіруе нават сярод самых пісьменных краін кантынента. На мове сісота выдаецца ўвесь перыядычны друк каралеўства, існуе свая нацыянальная літаратура, перакладаецца сусветная класіка.

Маленькая краіна афрыканскіх горцаў адзначае ў кастрычніку гэтага года дзесятую гадавіну свайго незалежнага існавання. Нядаўна прыняты другі пяцігадовы план развіцця на 1976-1980 г.г. ставіць сваёй задачай аслабленне эканамічнай залежнасці ад ПАР, самазабеспячэнне прадуктамі, павелічэнне занятасці насельніцтва. Галоўная ўвага будзе ўдзяляцца развіццю сельскай гаспадаркі і стварэнню на яе аснове перапрацоўчай прамысловасці. У Лесота бяруць пачатак амаль усе рэкі афрыканскага поўдня, і таму на парадак дня паўстае пытанне аб эксплуатацыі галоўнага багацця краіны — гідраэнергіі, па запасах якой каралеўства займае першае месца ў Паўднёвай Афрыцы. Вялікія надзеі ўскладаюцца на залежы алмазаў. Цяпер з дапамогай савецкіх геолагаў праводзяцца дэталёвыя абследаванні мясцовых кімберлітаў.

**С. К.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 5.III.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 7.30 Mech. rol. 8.25 Pr. dnia. 8.30 Red. szk. zap. 8.40 Teatr Sensacji: J. S. Znamierowski „Honor bez motywów" cz. I. 10.00 Dla klasy VII. Zool. Gady. 10.30 Studio 2.

**Niedziela — 6.III.** 6.00 Tech. Rol. Hod. zwierz. 6.30 Mech. rol. 7.00 Nasze spotkania. 7.20 Now. w domu i zagr. 7.45 Sport. 8.45 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielcy odkrywcy — film dok. ang. 11.45 Dziennik. 12.05 Rolnicze rozmowy. 12.35 Cztery pory roku w Żelazowej Woli — film dok. 13.05 Z kamerą wśród zwierz. 13.35 Bajkowy koncert życz. 14.20 Biblioteka wawelska. 14.40 Los. Dużego Lot. 14.55 Teatr Komedii. M. Weliczkow „Tak piękne, jak prawdziwe". 15.45 Tele-Echo. 16.45 W Starym Kinie: „Krew na piasku" melodramat USA. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Dzień, w którym wypłynęła ryba — film fab. grecko-ang. 22.30 Dziennik.

**Poniedziałek — 7.III.** 12.45 RTV szk. śred. Chem. 13.25 Biolog. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Pr. muz. 18.10 Znaki szczególne — odc. II filmu ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Telewizji: W. Azernikow „Trzeciego wyjścia nie ma". 21.55 Camerata. 22.30 Senegal — film dok. 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 8.III.** 6.00 RTV szk. śred. Chem. 6.30 Biolog. 10.00 Dla klasy I—III. Czer., żółte, ziel. 9.00 Dla klasy I lic. J. pol. Molier „Świętoszek". 11.30 Dzień, w którym wypłynęła ryba — film fab. grecko-ang. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. 17.40 Kółko i krzyżyk. 17.55 Interstudio. 18.25 Komicy niemego ekranu. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Lucjan Leuwen — odc. IV (ostatni) filmu ser. 22.20 Pr. muz. 22.55 Dziennik.

**Środa — 9.III.** 6.00 Tech. Rol. Hist. 6.30 Mat. 9.00 Dla klasy VI. Fiz. 11.00 Film fab. 12.00 Dla klasy VII—VIII. Wych. plast. 12.45 RTV szk. śred. Mat. 13.25 Fiz. 14.00 W drodze do nowego. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Pr. muz. 18.35 Skarby siódmego kont. — film dok. fr. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Hamlet — film fab. ang. 23.05 Dziennik.

**Czwartek — 10.III.** 6.00 RTV szk. śred. Mat. 6.30 Fiz. 11.30 Film fab. 12.55 Dla klasy III—IV lic. J. pol. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Patrol. 18.20 Eureka. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji: J. S. Znamierowski „Morderca się pomylił". 21.55 Pegaz. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 11.III.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 10.00 Dla klasy IV; Ojcowski Park Nar. 11.05 Dla klasy II: Nasze mamy. 12.00 Dla klasy VIII. Wych. ob. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Powszednie dni — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Klara i Agelika — film fab. pol. 21.25 Pamiętnik wychowawcy — odc. IV (ostatni) filmu ser. 22.30 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 4.III.** — 7.30 Mistrz. św. w j. fig. na lodzie. 13.15 Film fab. 16.50 Białoruś literacka. 17.30 Koncert życzeń. 18.00 Nasza biografia. 19.30 Mistrz. św. w j. fig. na lodzie.

**Sobota 5.III.** — 7.30 Mistrz. św. w j. fig. na lodzie. 12.30 Film fab. 14.55 Akad. i urocz. koncert pośw. Dniu Kobiet. 19.30 Sport. Hokej i j. fig. na lodzie.

**Niedziela 6.III** — 9.00 Mistrz. św. w j. fig. na lodzie. 10.30 Film fab. 13.25 Film anim. 13.45 Nie do wiary. 14.45 Mistrz. św. w j. fig. na lodzie. 17.35 Film ser. 19.30 Pr. estrad. 21.05 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Dojrzałe grona — radz. 8—9. Gdzie się podziała 7 kompania — fr. 10—11. Brunet wieczorową porą — pol. 12—13.

**Bielsk Podl.** Sugerland Express — USA 8—9. Akcja Bororo — czes. 10—11. Wielki Gatsbe — USA 12—13.

**Czeremcha** Motylem jestem — pol. 8—9. Mister Majestyk — USA 12—13.

**Czyże** Bez wyjścia — szwedz. Straszna teściowa — radz. 9—13.

**Dubicze Cerkiewne** Drzewo bez korzeni — buł. Klomo — pol. 9—13.

**Hajnówka** Pirat — meks. 8—9. Trzęsienie ziemi — USA 10—13.

**Kleszczele** Zbuntowani — buł. 8—9. Krótkie życie — pol. 10—11. Oni walczyli za ojczyznę — radz. 12—13.

**Michałowo** Syndykat zbrodni — USA 8—9. Samotny detektyw — USA 10—11. Żądło — USA 12—13.

**Mielnik** To jeszcze nie miłość — NRD 12—13.

**Milejczyce** Jesień debiutantów — rum. 8—10. Operacja „Dąb" — rum. 11—13.

**Narew** Trzecia córka — radz. Hazardziści — pol. 9—13.

**Narewka** Kangur — węg. Żona Jana — fr. 9—13.

**Nurzec** Tygrysiątko — buł. 8—9. Ostatni nabój — rum. 10—11. Ojciec chrzestny — USA 12—13.

**Orla** Afonia — radz. Kto szuka złotego dna — czes. 9—13.

**Rajsk** Tak zaczyna się miłość — czes. 9—13.

B.Z.Graf. Zam. 577 B-4



 

# ПАТРЫЯРХ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

(Працяг са стар. 1)

трох тамах *„Беларускіх народных песень"* (1959-1962), у якіх знаходзіцца каля 740 твораў, а сярод іх звыш 90 запісаных на Беласточчыне, самымі плённымі былі яго побыты ў Пясчаніках, дзе ён запісаў 30 твораў, Страшаве, — 17 твораў, Лабне — 16 твораў. Найбольш песень падалі яму: Параска Грыцук з Пясчанікаў — 18 песень, Надзея Ламашэвічанка з Лабна — 16 песень, Тарэн Карпюк са Страшава — 11 песень. Імення пра гэтага народнага спевака Р. Шырма з любоўю ўспамінае ў прадмове да яго зборніка *„Двести белорусских народных песень"*, які выйшаў у 1958 г. у Маскве.

Занатаваныя Р. Шырмам на Беласточчыне і апрацаваныя ім беларускія народныя песні прадстаўляюць усе іх роды і віды. Сярод іх знаходзім веснавыя, купальскія, жніўныя, асеннія, калядныя, а таксама хрысцінныя, любоўныя, сямейныя, бытавыя, батрацкія, рэкруцкія, жартоўныя і іншыя. Пры гэтым, у артыкуле *„Беларускія валачобныя песні"*, што быў надрукаваны ў другой кніжцы за 1936 г. беларускага часопіса *„Калоссе"*, які выходзіў у Вільні, Р. Шырма ў запісанай ім у Пясчаніках *„канапельцы"* знаходзіць старажытны прыспеў *„Ой, лоло"*, які „адпавядае паганскай сапраўднасці".

Сёння цяжка пераацаніць аграмадную каштоўнасць, якую прадстаўляюць для нас запісаныя, апрацаваныя і апублікаваныя Р. Шырмам беларускія песні, асабліва з тэрыторыі сучаснай Беласточчыны. Многія з іх або цалкам забыліся і ўжо не спяваюцца, або перажылі значныя пераўтварэнні і ў мелодыі і ў змесце. У сувязі з рухам насельніцтва толькі мізэрныя рэшткі беларускага фальклору захаваліся ў Тапільцы, дзе Р. Шырма ў 1929 г. запісаў аж дзевяць арыгінальных песень. Ці то збегам акалічнасцей, ці мэтанакіравана, але Р. Шырма запісваў беларускі фальклор якраз у тых мясцовасцях Беласточчыны, з якіх няма запісаў у М. Федароўскага (за выключэннем Луплянкі). Такім чынам ён выдатна ўзбагаціў зборы фальклору і ліквідаваў шэраг белых плямаў у ведах пра народную творчасць беларусаў Беласточчыны. Сваімі плённымі збіральніцкімі вынікамі заахвоціў іншых да запісвання і даследавання вуснай народнай творчасці нашага рэгіёна.

У пэўнай ступені сімвалічным завяршэннем вынікаў дагэтуляшняй дзейнасці было заснаванне Р. Шырмам у студзені 1940 г. у Беластоку **Ансамбля песні і танца Беларускай ССР.** У яго ён сабраў якраз тую самую таленавітую і працавітую моладзь, з якой ён штодня сустракаўся ў часе вандровак па былой Заходняй Беларусі. У склад ансамбля ўвайшлі таксама дзяўчаты і юнакі з Беласточчыны. Калектыў пры ўсебаковай дапамозе дзяржавы і прыхільнасці грамадства ў хуткім часе вырас у адзін з самых папулярных. Потым, у артыкуле *„Песня служыць народу"* („Калгасная праўда" ад 16 верасня 1951 г.) Р. Шырма ўспамінае: „У студзені 1940 года маладзы ансамбль прыступіў да работы і ў маі ўжо выехаў на гастролі ў Маскву. Цёпла сустрэлі масквічы наш калектыў. „Праўда" 6 чэрвеня змясціла артыкул, у якім адзначала „свежасць, непасрэднасць і прыгажосць беларускай народнай творчасці" ў выкананні ансамбля. Калі на беларускую зямлю часова лягло цяжкае ярмо фашысцкай акупацыі, наш народ не сагнуўся, а адказаў непрымірымай барацьбой. Песня наша разам з калектывам ансамбля дапамагала савецкім патрыётам у іх свяшчэннай барацьбе з ворагам. У гады вайны мы пабывалі ў Сібіры, Сярэдняй Азіі, на Урале, у войсках 1-га Беларускага фронту. Усюды нас цёпла сустракалі, цёпла і развіталіся. Тысячы канцэртаў, 70 тысяч кіламетраў на калёсах, каля мільёна слухачоў — такі творчы баланс ансамбля к канцу вайны".

Гэты заслужаны ансамбль у 1950 г. быў ператвораны ў Дзяржаўны хор Беларускай ССР, а ў 1955 г. у Дзяржаўную акадэмічную капэлу БССР, якую і ўзначальваў Р. Шырма да 1970 г. Адначасова з гэтай і іншымі ангажуючымі работамі, ён увесь час не спыняе свае працы як фалькларыст-збіральнік. У яго зборах знаходзіцца звыш дзвюх тысяч беларускіх народных песень і многа іншых фальклорных твораў.

Р. Шырма — актыўны грамадскі дзеяч. З 1966 г. ён з'яўляецца старшынёй праўлення Саюза кампазітараў БССР і сакратаром праўлення Саюза кампазітараў СССР. Многа працы ўносіць як шматгадовы дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Яму прысвоена Дзяржаўная прэмія БССР за 1966 г. Узнагароджан Р. Шырма ордэнам Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі і іншымі ўзнагародамі.

**Мікалай Гайдук**

# Багаты людзьмі

(Працяг са стар. 1)

бываў у Беластоку. Мяркуючы па яго коў на Беласточчыне. Можна разлічваць заўсёды і на Соф'ю Цацэрка з Бабро̆ўнікаў, і на Любу Гаўрылюк з Беластока, і на арэшкаўскіх жанчын, і на дубяжынскія „Дубочкі", і на Плёскі, і на дзяўчатак-ліцэістак з Бельска.

І тое якраз, што ў конкурс грэміяльна ўключаецца **моладзь,** дае падставы меркаваць, што наша праца не змарнавалася, што маладым людзям не толькі не чужая беларуская песня, а наадварот — блізкая сэрцу і душы. Заваражыў усіх прысутных на конкурсе чароўны спеў бельскіх дзяўчат. Як яны выраслі! Напэўна нямала прыйшлося папрацаваць з імі Сяргею Лукашуку, але вынікі атрымаліся выдатныя. І не толькі Бельск прадстаўляла моладзь. Плёскі, Беласток, Мілейчыцы, Дубічы Царкоўныя, Збуч таксама прыслалі на сёлетні конкурс маладых.

І тут адна маленькая ўвага. Моладзь лепш выпадае ў сучасным рэпертуары. І хаця тое, што сягае яна па фальклорныя песні, факт вельмі станоўчы, не магу паўстрымацца ад таго, каб не заўважыць розніцы ў іх спеве і спеве аўтэнтычных народных спявачак.

Гэтыя **аўтэнтычныя народныя спявачкі** складаюць асобную, аўтаномную групу сярод удзельнікаў нашых песенных аглядаў (у гэтым годзе — Арэшкава, Скупава, Дабрывада, Тапаркі, Соф'я Цацэрка, Анна Стахіюк, Аляксандра Бонкард), да іх трывала далучылася мужчынская група з Дубяжына.

Менавіта, каб паслухаць гэты непаўторны спеў, прыходзяць людзі „звонку", людзі, быць можа, менш заангажаваныя, але цэнячыя аўтэнтызм беларускай песні, не напісанай вопытнымі кампазітарамі, а створанымі крыкам душы, шырам палёў, умілаваннем роднай прыроды, шматгадовым людскім вопытам і нялёгкай працай селяніна, які і ў журбоце заўсёды ўмеў пацешыць сябе іскрынкай надзеі.

Усё гэта яскрава адчуваеш, калі слухаеш, напрыклад, кабет з Арэшкава... Ёсць тая зацяжнасць песні, якая нясецца далёка, у палі, у неба, на край свету, здаецца.

Калі спявае такія ж песні моладзь, то чую, можа падсвядома, рытм біг-біту (больш рытмічна і правідлова, але менш напеўна), бачу вясковы клуб, вясковых музыкантаў (з электрычнай гітарай), чую гул трактароў на полі, адчуваю неспакойны пульс эпохі.

А чаму б ім не звярнуцца да старэйшых вясковых, „няшколеных", спявачак і не паспяваць разам з імі некалькі вечароў, каб, скажам, „прывучыцца" да іхняга аўтэнтызму?.. Бо сёння ж нанародныя песні — ужо жамчужына, і нашым найбольшым жаданнем было б, каб маладое пакаленне заакцэптавала яе і пераняло эстафету ад сваіх бацькоў!

Пару слоў аб рэпертуары. Быў свежы! А ўсё ж здараліся вельмі збітыя паўтарэнні. Паверце, будучыя ўдзельнікі, што найцудоўнейшую „Зорку Венеру" таксама можна абрыдзіць! І журы, ацэньваючы асобных удзельнікаў, прымае пад увагу не толькі тое, што песня народная і прыгожая, але перш за ўсё тое, наколькі яна свежая ў нашым конкурсе. Нам важна не толькі, каб беларускія песні спяваліся, але каб і выдабываліся, экспанаваліся, знаёмілі слухача!

Хацелася б падзякаваць удзельнікам конкурсу за тое, што ўзялі да сэрца нашы мінулагоднія ўвагі. Я гавару аб вопратцы. Амаль усе выканаўцы народных песень выглядалі так, як яно і павінна быць. І калі хтосьці не мог сабе пазволіць, напрыклад, на блузачку з мастацкай вышыўкай, дык меў прынамсі такі ж хвартушок. Ды, зрэшты, нават квяцістыя паркалёвыя ці фланелевыя блузкі былі пашыты на народны лад і стваралі непаўторнае ўражанне аўтэнтызму.

**Ада Чэчуга**

**Фота К. Свідэрскага**

# Аўтарскі вечар Віктара Шведа

9 лютага ў варшаўскім клубе БГКТ аматары паэтычнай творчасці Віктара Шведа мелі магчымасць пазнаёміцца з яго новымі, яшчэ не апублікаванымі вершамі „Хацелася б многа сказаць", „Дарожны арнамент", „Прыстанак Мора", „Гарадскі асфальт" і некалькімі вершамі для дзяцей.

У сардэчнай размове, якая вялася пасля прачытання аўтарам гэтых вершаў, амаль усе ўдзельнікі сустрэчы, выказваючы свае цёплыя адносіны да паэзіі Шведа, задумваліся над прычынамі смутку, так характэрнага для „дарослых" вершаў паэта. Сімвалам тут можа быць і стары вяз, уступаючы месца электрычным правадам, бо ім ён перашкаджае; і конь, што адступае перад трактарам; і векавая хата пад саламянай страхой, на змену якой прыходзіць мураваны дом з каналізацыяй.

Смутак гэты, як гаварыў сам аўтар, ніколі не азначаў для яго спробы паўстрымання адбываючыхся цывілізацыйна-тэхнічных змен на вёсцы, неабходных і патрэбных, а быў толькі праявай меланхоліі і настальгіі ў сувязі з адышоўшым раз назаўсёды дзяцінствам і ўсім тым, што было з ім звязана.

— Ці ў паэзіі В. Шведа ёсць штосьці большае, чым інфармацыя, апісанне, пададзенае ў рыфмаванай форме, і ці не лепш было б, каб аўтар перакінуўся на прозу? — паставіла пытанне Вера Бярылка.

Думаю, што нанесла б гэта вялікую шкоду беларускай паэзіі Беласточчыны. Ды і сам аўтар падкрэсліў сваю непарыўную сувязь з паэтычным варштатам, дазваляючым яму найлепш выказаць свае адчуванні (зрэшты, дзве яго спробы пісання прозай не былі прыняты занадта аптымістычна).

Мне здаецца, што для такога паэта і грамадскага дзеяча, як Віктар Швед, лірычныя паэзіі з'яўляюцца не толькі сродкам перадачы асабістых перажыванняў, але і інструментам, інтэгруючым беларускае асяроддзе ў Польшчы.

**Міхал Занчэўскі**



*Выступае В. Швед.* *Фота С. Грыгарчука.*

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XII

**„Красаваў язмін".** Апавяданне канчаецца наступным фрагментам:

„Прайшло нямала часу. На іншым жыццёвым шляху апынуўся я. Многа розных іншых людзей спаткаў, а й дагэтуль, ад пары да пары з'яўляецца прада мною квола-даражэнькі абраз невялічкай чарнавокай жыдовачкі з сумным поглядам у чорных глыбокіх вочках.

— Муся, Муся...

І так і чую тады той п'янавата-мляўкі пах красуючага язміну.

„Што й к чаму, што й к чаму". — ташную ў гэткі час, бо не маю аніякага ж адказу..."

„Красаваў язмін" — гэта эцюд, прысвечаны мінуламу пачуццю кахання. Зрэшты, ці кахання? Можа толькі таму, што ў спрыяючых умовах магло перарасці ў пачуццё кахання. Аднак усё склалася па-другому, бо так хацеў лёс, і напэўна кожны дарослы чалавек мог бы знайсці ў сваіх юначых гадах здарэнне, падобнае таму, якое апісаў Гарэцкі ў сваёй імпрэсіі „Красаваў язмін".

Прадстаўлена ў ім вельмі простая і тыповая сітуацыя. Малады хлопец ідзе разам з яшчэ малодшай яўрэйкай. На свеце пара кахання — вясна, абеленая язмінам. Маладыя сядаюць на лаўцы, і тут пачынаецца „драма". Дзяўчына чакае ад хлопца актыўнасці, абдымкаў, пацалункаў. Хлопец, хаця і ведае, як павінен сябе весці, аднак паступае зусім інакш, чым трэба. Ён пасіўны, пасля раптоўна сціскае дзяўчыну, зноў бяздзейнічае. Юнак поўнасцю ўсведамляе неўласцівасць сваіх паводзін і таму ў думках не шкадуе сабе найвастрэйшых слоў:

„Я сядзеў, як пень, і лаяў у думках сябе калодаю, дурнем, сажалкавым гнётам..."

„Ну й ламіна ж я", стыдзіў сам сябе і чуў, як пабегла кроў у галаву; зачырванеўся, і добра, што хоць ноч, дык не відаць".

Усе спосабы і прыёмы дзяўчыны з мэтай актывізаваць хлопца не далі ніякага выніку. Маладыя разыходзяцца і дамаўляюцца сустрэцца на другі дзень. Адно дзяўчына не паяўляецца на ўмоўленым месцы.

Праходзіць некалькі дзён, і хлопец даведваецца, што Муся выехала ў Вільню і там памерла. Такая развязка з'яўляецца нечаканасцю, нічым у апавяданні не ўматываванай і неапраўданай. Чым кіраваўся аўтар, даючы твору такое заканчэнне? Хацеў быць у згодзе з сапраўдным здарэннем? Стараўся ўвесці ў твор элемент незвычайнасці? Праявілася ў гэтым мастацкая няспеласць аўтара? Цяжка сказаць. Так ці інакш, заканчэнне не толькі выразна выламваецца з асноўнага струменя зместу апавядання, але і пярэчыць яму. Трагічнае заканчэнне выразна пярэчыць таксама пагоднаму настрою ўсяго твора, яго лірычна-іранічнаму клімату.

Да найцікавейшых у апавяданні трэба аднесці апісанне паводзін маладых людзей у часе інтымнай сустрэчы. У гэтых сцэнах бачым многа праўдзівага і цікавага. Дзякуючы гэтым сцэнам твор становіцца прывабным эцюдам чалавечай сарамлівасці. Няўменне сябе весці, нясмеласць маладога хлопца мае ў сабе многа прыгажосці.

Апрача асноўнага, ужо прадстаўленага намі, матыву апавядання выступае ў ім матыў другарадны. Другарадны па сваіх памерах, але надзвычай важны па сваёй істоце. У творы гаворыцца аб вялікім імкненні Мусі да таго, каб „па сканчэнні гімназіі мець у вёсцы сваю школку і вучыць сялянскіх дзетак". Аднак Муся моцна сумняваецца, ці гэта ёй удасца з тае прычыны, што яна яўрэйка. І вось гэты момант чорным ценем кладзецца на мінулае. Прыпамінае нам старыя царскія часы, калі на людзей у залежнасці ад іх нацыянальнага паходжання, былі наложаны розныя абмежаванні і рэпрэсіі. Зразумела, што абмежаванні датычылі не толькі яўрэяў. На працягу некалькіх стагоддзяў падлягалі ім і беларусы.




*У Лядах жыве цар-баба. Не злазячы з печы, кіруе яна мужам і гаспадаркай. Але кіраванне на адлегласць не павышае ўзроўню гаспадаркі. Заморааны муж ужо ледзь дрыпае, а дарослыя дзеткі яшчэ не прывыклі працаваць беленькімі ручкамі. Хто ім дапаможа?*

**Е. С.**

 

# Размова аб найважнейшым

Пастановы VI Пленума стаяць у цэнтры ўвагі дзейнасці партыйных інстанцый і арганізацый. 2,5 тысяч чалавек на Беласточчыне брала ўдзел у семінарах, прысвечаных VI пленуму ЦК ПАРП.

Ва ўсіх гмінах адбыліся супольныя пленарныя пасяджэнні камітэтаў ПАРП і ЗСЛ з удзелам шырокага грамадскага актыву. Вельмі цікава праходзілі сходы на вёсках і ў тых установах, якія маюць дачыненне да сельскагаспадарчай вытворчасці. Асновай дыскусіі быў ліст I сакратара ЦК ПАРП тав. Эдварда Герка, накіраваны да сялян нашай краіны. Як вядома, закранае ён найважнейшыя справы сельскагаспадарчай палітыкі і задачы сельскай гаспадаркі ў бягучым годзе. Падчас абмяркоўкі гэтага лісту сяляне дыскутавалі над магчымасцямі інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці дзякуючы выкарыстанню існуючых рэзерваў.

Гэтымі рэзервамі ў гміне Орля з'яўляюцца: рацыянальнае выкарыстанне сенажацяў, якіх налічваецца там 2 333 га, лепшае выкарыстанне вясковых паш (іх у гміне 1999 га). У бягучым годзе будуць зроблены намаганні, каб сабраць сена з трох пакосаў на 1800 га, што значна павялічыць кармавую базу для жывёлагадоўлі. Сёння ў гміне Орля налічваецца больш 20 спецыялізаваных гаспадарак і больш 100 гаспадарак, якія ў хуткім часе будуць спаўняць умовы спецыялізаваных гаспадарак.

У Боцькаўскай гміне, як сцвярджае першы сакратар ГК ПАРП Віталі Ляўчук, на сходах у СКР, ГС, ветэрынарнай лячэбніцы, сельскагаспадарчай службе, спулдзельчым банку і інш. многа гаварылася аб тым, што неабходна большая ўвага да ўсіх сялянскіх спраў, неабходны вышэйшы ўзровень паслуг і іх тэрміновасць, а таксама „фаховая" парада — усё гэта будзе спрыяць значнаму павелічэнню сельскагаспадарчай прадукцыі. А на шматлікіх вясковых сходах у гэтай гміне сяляне шмат гаварылі аб недастатковым асартыменце мінеральных угнаенняў і недахопе заменных частак для сельскагаспадарчых машын.

Ліст таварыша Герка да сялян Польшчы выклікаў вялікае зацікаўленне не толькі членаў партыі, але і беспартыйных у гміне Сямяцічы. Там на сходах дыскусія канцэнтравалася на пытаннях адбудовы пагалоўя жывёлы, рацыянальнага выкарыстання кармоў, дапамогі сельскагаспадарчай службы ў забеспячэнні гадаўлянага матэрыялу, лепшага гаспадарання на дзяржаўным фондзе зямлі, большай тэхнізацыі вёсак, паляпшэння дарог і г.д. У Баціках Бліжэйшых былі закрануты таксама справы культуры і пабудовы святліцы, якую плануюць жыхары вёскі будаваць гаспадарчым спосабам.

У адказ на ліст таварыша Герка, члены прадукцыйнай спулдзельні ў Старым Корніне яшчэ актыўней працуюць над тым, каб як мага хутчэй пабудаваць свінарнік для адкорму свіней на 1200 месц. Плануецца, што будзе ён аддадзены ў канцы красавіка бягучага года. У далейшым прадбачана будова яшчэ двух такіх свінарнікаў.

Гурток вясковых гаспадынь у Чыжыках, што ў Гайнаўскай гміне, абавязаўся пабольшыць стада дойных кароў на 36 штук і на столькі ж маладняка.

На ўсіх вышэй адзначаных сходах, якія, як правіла, адбываліся па ініцыятыве партыйных арганізацый, сяляне ў сваіх выказваннях адабралі намеры ўтварэння эмерытальнага фонду для сялян. А тое, што велічыня пенсіі будзе залежаць ад ўзроўню сельскагаспадарчай вытворчасці, будзе вялікім штуршком для развіцця прадукцыі і ўтрымання адплыву моладзі з вёсак.

**Міхась Хмялеўскі**

## Мала, але цікава

### ДЗЯКУЙ РАКАВІНКАМ!

У барацьбе за чысціню марской вады чалавецтва не адзінокае, вялікая заслуга ў гэтай справе губак і ракавінак.

Прапускаючы ваду праз сваё цела, яны вызваляюць яе ад узважаных часцінак, якія ідуць у асадак і ўтвараюць глей. Звычайная мідыя фільтруе за гадзіну 3,5 літра вады.



# Пад імем Кастуся Каліноўскага

У студзені ў Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася вельмі важная падзея. Гарцэрскаму племені школы было прысвоена імя Кастуся Каліноўскага — беларускага дзеяча за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, кіраўніка студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве.

Ужо многа дзён да гэтага ўсе вучні жылі думкамі аб будучай урачыстасці. Хлопцы захацелі прыдаць ёй сапраўдны гарцэрскі настрой і зрабілі штучны гарцэрскі касцёр. Пад вечар запрошаныя госці, дырэктар, настаўнікі школы і вучні сабраліся ў гімнастычнай зале.

Заклічка пачалася. Начальнікі васьмі гарцэрскіх дружын рапартавалі каменданту племені — гарцмайстру Аляксею Харкевічу, які ў сваю чаргу рапартаваў намесніку каменданта гуфца Уладзіславу Невядомскаму. Пасля гэтага калона сцяганосцаў унесла ў залу сцяг, і ўсе дружна заспявалі гарцэрскі гімн. Потым выступіў камендант племені. Ён коратка напомніў пра жыццё і дзейнасць Кастуся Каліноўскага.

І цяпер наступіў найбольш важны момант, а іменна — прызнанне імя Кастуся Каліноўскага гарцэрскаму племені беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Гарцмайстар У. Невядомскі прачытаў акт урачыстага прызнання імя загадам каменданта гуфца ў Гайнаўцы.

У такой урачыстай хвіліне да ўсіх сабраных узрушанымі словамі прамовіў дырэктар. Ён асабліва падкрэсліў важнасць гэтай падзеі ў жыцці школы. Апрача гэтага бадай найцікавейшым момантам была клятва будучых інструктараў нашай школы, сярод якіх апынуліся адны выдатнікі ў вучобе. Яны кляліся на вернасць ідэям К. Каліноўскага, кляліся акружаць глыбокай пашанай і ажыццяўляць яго ідэі, захаваць вернасць ідэалам патрыятызму, інтэрнацыяналізму і сацыялістычнага гуманізму. Яны кляліся таксама старанна выконваць свае абавязкі ў школе і племені, а ў будучыні выкарыстаць здабытыя веды для дабра нашай сацыялістычнай айчыны — Народнай Польшчы. Інструктарскае абавязацельства ад 14 вучаніц і вучняў прыняў госць белліцэя У. Невядомскі.

Потым калона сцяганосцаў вывела сцяг і пачалося відовішча, тэматычна звязанае з прызнаннем імя гарцэрскаму племені. Былі тут вершы аб К. Каліноўскім, цікавыя апавяданні аб цяжкім яго жыцці, а таксама гарцэрскія песні. Урачыстасць закончылася гарцэрскім гімнам.

Відаць было, што вучні старанна падрыхтаваліся да гэтай урачыстасці. Яны



стараліся паказацца з як найлепшага боку, і ім гэта ўдалося. Вялікая заслуга ў гэтым нашых настаўнікаў, якія ад шчырага сэрца памагалі сваім выхаванкам арганізаваць урачыстасць і падрыхтаваць відовішча.

Урачыстае прызнанне гарцэрскаму племені Гайнаўскага белліцэя імя К. Каліноўскага будзе назаўсёды запісана на старонках гісторыі школы.

**Ніна Калішук,**
вучаніца II кл.
Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы

Фота школьнага фатаграфічнага клуба

(Працяг са стар. 1)




— Вы, Максіме, у сусветнай палітыцы, здаецца, не разбіраецеся. Вось мы будуем фабрыкі, дамы, стараемся, каб быў вышэйшы ўраджай з аднаго гектара... А спецыялісты з пакту НАТО фаварызуюць палітыку агрэсіі, асабліва ў апошні час раздзьмухалі яны гонку ўзбраенняў. Пад апекай НАТО працуе зараз 400 навукова-даследчых установаў, якія шукаюць усё болей дасканалых спосабаў для масавага знішчэння... І таму мы павінны быць гатовы на найгоршае. У нас ёсць армія, нашы сілы аб'яднаны ў рамках Варшаўскага дагавора і міру ў імперыялістаў мы прасіць не станем, мы яго самі адстаім. Аднак кожны грамадзянін, кожны жыхар у вёсцы і ў горадзе павінен ведаць, што мае рабіць, калі здарыцца найгоршае. Дзеля гэтага ў нас арганізавана сістэма **цывільнай абароны.** У ваяводстве ўзначальвае яе ваявода. На заводах і прадпрыемствах дзейнічаюць завадскія атрады цывільнай абароны. Такія ж атрады і дружыны паклікаsuccessfully ў гмінах і вёсках.

Нядаўна, кажа начальнік, адбылася ў Беластоку спецыяльная нарада, прысвечаная гэтым справам. Ой, і дасталася ж некаторым начальнікам гмін за нядбайнасць у справах цывільнай абароны. Адзін такі палкоўнік, відаць вопытны і заслужаны, бо з многімі ордэнамі, асабліва граміў начальнікаў з Кузніцы, Міхалова, Нарвы, станцыі Нурэц і з некаторых іншых гмін за неахайныя адносіны да прылад і прыбораў для цывільнай абароны, за недастатковае выкарыстанне грашовых сродкаў, прызначаных на абучэнне ўдзельнікаў атрадаў цывільнай абароны...

Начальнік яшчэ доўга паясняў мне ўсё гэта. Між іншым, даведаўся я, што гэты ж палкоўнік пахваліў Мілейчыцкую, Кляшчэлеўскую і Васількоўскую гміны. Цяпер я ўжо ведаў, адкуль у нашай вёсцы ўспыхнула гэтая марсіянская вайна. Проста наш начальнік рашыў і ў гэтай галіне падцягнуцца да найлепшых. І я гатоў яму ў гэтым памагчы, бо давялося ў жыцці маім пораху панюхаць і другім гэтай бяды не жадаю.

Толькі навошта гэтыя марсіянцы, трасца ім у бок, маю бабу перапалохалі і цэбрык малака змарнавалі?

З пашанай
**Максім Нурэцкі**

(Працяг са стар. 3)

# Паэтычны плён „Белавежы"

паэтамі літстаронкі „Белавежа". Калі паэты з-пад „зоркі аўтэнтызму" для свайго літаратурнага руху стварылі тэарэтычную базу, то „белавежцы" стваралі літаратурны клімат з творчасці, не сціснутай ніякімі рыгарыстычнымі рамамі.

Год 1976 быў годам надта ж плённым. даў шэсць дэбютаў: Агнія, Я. Брацкі, Ваву, В. Квапіш, Х. Саўко і Б. Смыла. Гэтая колькасць сведчыць аб моцных карэннях літаб'яднання, здольных выпускаць свежыя парасткі, якія ўзбагачаюць такую цікавую з'яву ў нашай літаратуры. Частку дэбютаў, праўда, можна было б часова апозніць, але зноў другая частка ўжо першым творам паказала сваю спеласць, між іншым, В. Квапіш, Б. Смыла.

Вершы „белавежцаў" нясуць у сабе вялікую філасофскую паклажу. Вось хаця б у творчасці Міхася Шаховіча. Праяўляецца гэта ў пытаннях экзістэнцыяльнага характару пра сэнс жыцця, павароты, памяць. Аўтар „Малітвы", „...калі даваць" ці „...вярталіся і ўсё не так" стараецца, паслугоўваючыся як мага простымі экспрэсійнымі сродкамі, часта адкінутымі да складу рэквізітаў, паказаць не толькі сваё псіхічнае нутро, але і непакой іншых. Даволі часта паяўляецца матыў няспоўненага кахання, падманутай надзеі. Не, гэта не толькі песімістычнае ўспрыняццё рэальнасці. Назіраецца таксама выразна аптымізм будовы ў сутыкненні з „новым". Адгэтуль часамі сентыментальныя творы канчаюцца грубым выклікам. Творчасць Міхася Шаховіча найбольш выразна акрэслівае напрамкі, у якіх хвалюецца творчасць „белавежцаў".

Другой цікавай з'явай з'яўляецца творчасць Зосі Сачко, якая тэматыку да сваіх твораў чэрпае часта з багатых фальклорных крыніц, што з'яўляюцца састаўной часткай вясковай культуры. Адсюль у творчасці выразна зазначаецца казачнасць, але казачнасць у рэаліях беларускай вёскі. Часта вершы Зосі Сачко трапічаць з фальклорам, з яго рознымі відамі і галінамі. Але гэта толькі адна з працэдур, вядучых да спалучэння фальклорных элементаў з уласнай паэтычнай канцэпцыяй. Гэтыя спалучэнні даюць нам паэтычны вобраз, поўны дынамікі, ствараючы часамі яшчэ адну магічную формулу. Варта ўвагі творчасць Ірэны Баравік. Яе творы найлепш адлюстроўваюць так званую „жаночую творчасць", праяўляючыся ў аналізе ўнутраных станаў. Новыя вершы Ірэны Баравік паказваюць нам нутро чалавека, зламанага хваробай. Адгэтуль даволі часта ў творах паяўляецца сімвалічная бель, тым самым вершы гэтыя як бы прыцішаны запісам вялікага болю.

Вершы Надзеі Артымовіч падымаюць адвечную праблему жыцця і смерці. Іх экспрэсія заключаецца ў паўтарэнні асноўных пытанняў. Паказванне свайго героя як чалавека, загубленага ў моры людскіх спраў („калі загіне сон", „папялішча") ставіць паэтэсу ў плыні катастрафізму.

У сваіх разважаннях абмінаю паэтычную творчасць паэтаў, якія творча поўнасцю даспелі і здабылі пазіцыю ў літаратурным жыцці. Гэта Алесь Барскі, Яша Бурш, Янка Чыквін, Сакрат Яновіч. Абмінаю таксама творчасць надта багатую, але радзей паяўляючуюся на літстаронцы. Гэта празаічная творчасць Мікалая Гайдука. Не адвёў таксама месца і многім іншым паэтам, выходзячы з таго пункту, што час з'яўляецца найлепшай праверкай розных літаратурных з'яў. Хацеў паказаць толькі тых, якія знаходзяцца найбліжэй самастойнасці. Многія, здабыўшы самастойнасць, выйшлі з рамак літаб'яднання, але сувязей з групай не парвалі. Далей апякуюцца маладымі дэбютантамі, дзелячыся з імі сваім творчым вопытам. За некалькі гадоў іншыя здабудуць сваю ўласную пазіцыю, увойдуць новыя. Час найдакладней пакажа, якім эвалюцыям, у значэнні мерытарычным, пакараецца літаратурная лінія найстарэйшай у краіне літаратурнай групы.

**Янка Леанчук**



 

